# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік



**Акадэмік Бraніслаў Тарашкевіч,**
аўтар беларускае школьнае граматыкі

№ I (18) Рыга, студзень 1933 году № I (18)

Цэнтральнае Праўленьне просіць акуратна надсылаць весткі аб жыцьці усіх аддзелаў (аб вечарынах, лекцыях, сходах ды іншае). Больш паважныя весткі будуць выдрукаваны у азначаным часопісу.

Старшыня Цэнтральнага Праўленьня **К. Мяжэцкі**. Сакратар **Ф. Клагіш.**

## У Рэдакцыю часопіса „Беларуская Школа у Латвіі".

Высокапаважаны грамадзянін Рэдактар!

Просімо не адмовіць зьмясьціць у Вашай часопісі наступнае.

8 студзеня 1933 году адбылася юбілейная вечарына Дзьвінскага Аддзелу Т-ва Беларускага Тэатру у Латвіі з поваду 5-ых угодкаў працы. У праграме вечарыны было: 1) урачысты акт: кароткае уступнае слова старшыні Аддзелу С. Мацiеўскага, выкананьне гімнаў латыскага і беларускага, даклад сябры Праўленьня Ул. Ціхамірава аб 5-ці гадовай працы Дзьвінскага Аддзелу Т-ва і агалошаньне прывітаньняў; 2) пастаноўка п'есы Ф. Аляхновіча — „На Антокалі". Ня гледзячы на таннасьць білетаў, Тэатр меў чыстага прыбытку 45 латаў.

Праўленьне Дзьвінскага Аддзелу Т-ва Беларускага Тэатру у Латвіі прыносіць шчырую падзяку: 1) гр. Дырэктару і Школьнай Радзе беларускае гімназіі за памешканьне, 2) Старшыне Цэнтральнага Праўленьня Т-ва Беларускага Тэатру у Латвіі гр. В. Шгулеўскай - Бароўскай і 3) Беларускаму Выдавецтву у Латвіі у асобах гр. К. Езавітава і гр. Г. Нікіфароўскай за прывітаньне.

Старшыня Праўленьня Дзьвінскага Аддзелу
Т-ва Беларускага Тэатру у Латвіі — С. **Мацiеўскі**.
Скарбнік — **Ул. Ціхаміраў**. Сэкратар — **Абалевіч**.

## Паштовая скрынка.

**Ул. Ціхамірaву**. Карэспандэнцыю аб юбілею Дзьвінскага Аддзелу Т-ва Беларускага Тэатру у Латвіі зьмяшчаемо. Чакаемо далейшых матэр'ялаў аб працы Дзьвінскага Тэатру і хронікі Дзьвінскага беларускага жыцьця. Пішыце ня так густа і без скарочаньня слоў, бо дужа цяжка праглядаць і набіраць.

**А. Клагішу**. Зьмясьціць Ваш артыкул „Находка Барткевіча" ня маемо магчымасьці, бо у ім ужываюцца абразьлівые словы і звароты, якія могуць даць падставу для прыцягненьня Вас і Рэдакцыі да судовае адказнасьці за дыфрамацыю. Прапануемо Вам перапрацаваць Ваш артыкул так, каб ён, гаворучы аб фактах і высьветляючы справу, ня быў бы лішне абразьлівы па сваіх зваротах і зьместу.

**Саўцы Сьлядзеўскаму**. Вітаемо Вас з зьмяшчэньнем першых Вашых твораў у вашым часопісу. Пішыце далей. Выбірайце грамадзкія тэмы і тэмы аб працы. Папрабуйце пісаць апавяданьні і карэспандэнцыі. Працуйце старацца і упарта.

**Прысутнай**. Вашу карэпандэнцыю троху скарацілі з-за адсутнасьці мейсца. Пішыце часьцей і аб усім.

**Пустынцам**. Што замоўклі? Чакаемо карэспандэнцый!

**Алесю Галіне**. Прывітаньне атрымалі. Дзякуем. П'есу „Шэльмы" трэба Вам перапрацаваць, бо быту у ёй мала, ідэолёгія кульгае, самы сужэт - эпізод мала разьвіты і характары дзеючых асобаў слаба выяўлены. Аднак працаваць у гэтым напрамку Вам радзімо, бо пры больш дэтальнай і старанная распрацоўцы можа выйсьці добрая рэч. Яшчэ адно — унікайце нарочытай распушчанасьці, бо гэроі Вашы — ня „дно", а студэнцкая моладзь.

**Усім беларускім таварыствам, арганізацыям і школам у Латвіі**. Паважаныя грамадзяне! Просімо рэгулярна надсылаць весткі аб працы вашых арганізацый. У сваіх інфармацыях мы хацелі-б грунтавацца на Вашых справаздачах. У кождым Т-ве, арганізацыі і школе трэба Вам абраць сталага карэспандэнта, які трымаў бы сувязь з Рэдакцыяй.



**Адказны Рэдактар — К. Езавітаў.** Выдавец — **Беларускае Выдавецтва**

**Друкарня Г. Іге, Рыга, Стары Горад, Vecpilsētā, 8. Тэлефон 34212.**

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата**
Ў Латвіі, Літве, Эсьціі і Зах. Беларусі: за год—5 лат., за паўгода—3 л. 50 с., асобны нумар — 70 сант. У іншых краінах: за год—2 ам. дал. Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rigā, pastā, tek. rekins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rigā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rigā, pastkaste № 1362.
Рэдактар К. Езавітаў і Рэдакцыйная Калегія па справах часопісу прыймаюць па аўторках ад 15 да 16 гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Аплачваць аўтарскія ганарары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

**№ 1 (18). Рыга, студзень 1933 году. Год VIII.**

## 15-тыя угодкі 1-га Усебеларускага Кангрэсу.

Роўна пятнаццаць год таму назад у Менску адбыўся 1-шы Усебеларускі Кангрэс, які ў гісторыі беларускага нацыянальна-адраджэнчага руху мае дужа вялікае значаньне і адыграў ф а к т ы ч н а ролю Беларускага Устаноўчага Сойму, хаця-ж ф а р м а л ь н а ня быў ім абвешчаны.

Праца Кангрэсу заняла два тыдні, з 18 (5) па 31 (18) сьнежня 1917 году ўключна, і праходзіла ў атмасфэры надзвычайнага ўздойму, зацікаўленнасьці і напружаннасьці. У першыню пасьля развалу расійскае „турмы народаў", зьбіраліся ў гэткай агромнай лічбе прадстаўнікі паняволенае Беларусі, і ім было аб чым пагутарыць. Тагочасная гістарычная абстаноўка, гістарычны фон 1-га Беларускага Кангрэсу, таксама дужа ўскладняў працу Кангрэсу: на ўсходзе пылала вызваленчае чырвонае полымя Расейскае Рэвалюцыі, Заходняя Беларусь была адрэзана акопамі і калючым дротам Усясьветнае вайны, а ў самым сэрцы Беларусі, у Менску, Бабруйску і ў Рагачове, ужо зьбіраў польскі гэнэрал Даўбор-Мусьніцкі сваю армію, каб захапіць Беларусь пад уладу польскага пана.

У гэты трагічнейшы момант, калі толькі-што вызваленая Расейскаю Рэвалюцыяй з-пад улады цара Беларусь магла зноў трапіць у няволю, на гэты раз да нямецкага кайзэра, або да польскіх рэакцыйных магнатаў,—1-шы Усебеларускі Кангрэс абвесьціў Беларусь Народнаю Рэспублікаю і абраў Выканаўчы Камітэт, якому даручыў скласьці першы Часовы Урад Беларусі і ўвайсьці ў перагаворы з Расійскім і Украінскім Урадам аб стварэньні Фэдэрацыі гэтых Рэспублік.

На 1-шы Усебеларускі Кангрэс зьехалася аж 1872 дэлегаты з усіх пунктаў Беларусі — ад усіх беларускіх гарадоў, паветаў і валасьцей, а таксама і дэлегаты ад усіх беларускіх партый і арганізацый*). Вялікая лічба дэлегатаў, шырыня і паўната прадстаў-

*) Падрабязныя весткі аб складзе дэлегатаў гэтага Кангрэсу можна знайсьці у артыкуле Пётры Крачэўскага „Хто быў на 1-ым Усебеларускім Кангрэсе" у часопісу „Варта", Менск, 1918 год, № 1, баловкі 34-я, 35-я і 36-я.

ніцтва надалі пастановам Кангрэсу асабліві аўтарытэт і яскрава выявілі моцную волю ўсяго працоўнага беларускага народу да стварэньня сваяе ўласнае дзяржаўнасьці.

На мяжы 1917 і 1918 году перавярнулася яшчэ адна балонка ў гісторыі беларускага народу, і новы 1918-ты год распачаўся і прашоў пад знакам будаваньня Беларускае Нацыянальнае дзяржавы.

Бягучы 1933 год зьяўляецца юбілейным 15-ым годам ад пачатку працы над будаўніцтвам беларускае дзяржаўнасьці, і мы, наколькі гэта дазволіць памер нашага штомесячніка, пастараемося зусім аб'ектыўна асьветліць гэтую працу і яе этапы.

**Кангрэсавец.**

## Акадэміку Браніславу Тарашкевічу, беларускаму вучонаму і змагальніку-адраджэнцу, выказваемо наша сяброускае спачуваньне!

Лёс беларускага працоўнага народу, трапіўшага ў Заходняй Беларусі пад жорсткую акупацыю польскіх паноў - імпэрыялістаў, пазбаўляючых беларусаў зямлі, працы, школы і права на самаарганізацыю, склаўся гэтак трагічна, што ў кождай шчырай і чэснай беларускай душы павінен выклікаць абурэньне і гнеўны пратэст супроць польскіх зьдзекаў. Ня дзіва, што ўся сьвядомая беларуская інтэлігэнцыя, актыўна працуючая ў беларускім вызваленчым руху, а таксама і шырокія масы беларускага сялянства і рабочых незадаволены польскім гаспадараньнем у Заходняй Беларусі і дамагаюцца зьмены гэтага нецярпімага становішча, дамагаюцца зямлі працоўнаму сялянству, працы для рабочых, беларускіх школ для беларускіх дзяцей і моладзі, кнігі і асьветы ў роднай мове для ўсяго беларускага жыхарства, а таксама і палітычных правоў, патаптаных зара' акупантамі.

Акадэмік Браніслаў Тарашкевіч зьяўляецца выдатным беларускім вучоным-філёлёгам, які ўжо 15 год таму назад стаўся вядомым самым шырокім беларускім масам: яго працаю складзена най больш пашыраная на Беларусі школьная граматыка беларускае мовы. Маючы вялікія даныя і нахіл да кабінэтнае працы вучонага, Б. Тарашкевіч, аднак, ходам падзей быў высунуты на вярхавіну беларускага вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, бо ня змог прымірыцца з польскімі акупацыйнымі рэпрэсыямі супроць беларускіх асьветных устаноў і сялянства ды горача стануў на абарону беларускіх працоўных масаў, паняволеных і абяспраўленых акупантамі.

Польская буржуазія і магнацтва злобна рычэла, слухаючы адважныя і гарачыя прамовы Б. Тарашкевіча ў польскім Сойме, куды ён быў абраны беларускімі сялянамі і рабочымі, аб'яднанымі ў партыю „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада", і дамагалася арышту гэтага энэргійнага беларускага вучонага, сумленнага палітыка і запраўднага народнага трыбуна. Польскі клясовы ўрад пайшоў на спатканьне польскай рэакцыі і абшарнікам: Б. Тарашкевіча арыштавалі ў 1927 годзе і засудзілі на 6 год катаргі. Праз тры гады, пад напорам усеагульнага абурэньня гэтым прысудам, яго ў 1930 годзе на некаторы час выпусьцілі на волю (пазбавіўшы аднак права працаваць у беларускіх гімназіях і школах), але потым

зноў схапілі і пасадзілі ў турму. Пасьля доўгага трыманьня ў турме, 28 лістападу 1932 году ў Вільні польскі клясовы суд абшарнікаў зноў судзіў акадэміка Б. Тарашкевіча і засудзіў яго аж на 8 год катаргі, хаця-ж сам суд канстатаваў, што Б. Тарашкевіч вінен толькі ў тым, што ён бараніў правы беларускага народу і дамагаўся для яго лепшае будучыні.

Мы горача пратэстуем супроць гэтае новае несправядлівасьці польскае акупацыі і засылаемо сваё шчырае прывітаньне чэснаму змагальніку за беларускае вызваленьне і вызнанаму павадыру беларускіх працоўных мас Заходняе Беларусі, акадэміку Браніславу Тарашкевічу!

**К. Езавітаў.**

## 3-ці Надзвычайны Агульны Сход Таварыства Беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

У зьвязку з рознымі нечаканымі падзеямі, Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі змушана было 26 студзеня 1933 году, у памешканьні 2-й Рыскай беларускай школы, зноў пільна склікаць Надзвычайны Агульны Сход сваіх сяброў, які ў 1932-33 навучальным годзе зьяўляецца ўжо аж трэцім. Сход быў скліканы па прапазыцыі Цэнтральнага Праўленьня Уселатвійскага Вучыцельскага Хаўрусу, каб абгаварыць праэкт новага закону аб народнай асьвеце ў Латвіі, а таксама і праэкт міністэрства народнага дабрабыту аб зьліквідаваньні асобнае вучыцельскае кассы. Адначасна з гэтым на Сходзе быў зачэплены і вырашаны шэраг іншых пытаньняў, як агульнабеларускага асьветнага характару, так і з унутранняга жыцьця Т-ва вучыцялёў.

Прыймала ўдзел у сходзе 23 настаўнікі: Гусарэвіч Сабіна, Гусарэвіч Уладзімер, Даль Марыя, Дзямідаў Мікола, Езавітаў Канстантын, Кастылюк Якуб, Камаржынскі Язэп, Каяла Язэп, Крэйц Настасься, Крэйц Барбара, Кудраўцаў Ян, Клагіш Франц, Мяжэцкі Казімір, Міpановіч Пётра, Нікіфароўская Галіна, Плыгаўка Грыгор, Рытаў Аркадзь, Родзька Александр, Сіцько Сьцяпан, Слосман Мячаслаў, Тэтар Люцыя, Казакевіч Карл і Калінін Міхась.

Нажаль трэба адзначыць, што ня ўсе рыскія і пражываючыя зара' ў Рызе беларускія настаўнікі зьявіліся на сход (у аднэй Рызе налічваецца зара' 37 сяброў Т-ва).

У справе новага „Закону аб народнай асьвеце", праэкт якога, што зара' знаходзіцца ў Сойме, быў раздадзены прысутным сябром толькі пад час самаго сходу, — ухвалена склікаць новы надзвычайны сход сяброў Т-ва на 5-е лютага ў 11 гадзін дня ў памешканьні Рыскае прыватнае беларускае аснаўное школы Т-ва вучыцялёў пры вуліцы Брыўзэмнека 22, каб да таго часу сябры Т-ва мелі магчымасьць у належнай меры азнаёміцца з праэктам закону.

У справе Вучыцельскае Бальнічнае Кассы ўхвалена дамагацца ад міністэрства народнага дабрабыту, каб вучыцельская касса і надалей працавала, як самастойная асобная касса, бо праэкт далучэньня вучыцялёў да агульнае ўрадовае бальнічнае кассы непажаданы і нязручны для вучыцялёў па цэламу шэрагу практычных і прынцыповых прычын (аб якіх падрабязьней глядзі ў „Musu Nakone" № 3 за 1933 год).

Затым узьнята было пытаньне аб сяброўскіх складках. Высьветлілася, што шмат сяброў Т-ва ня складаюць сяброўскіх складак у належны час і зара‘ вінны Т-ву ўжо значныя сумы. У зьвязку з гэтым само Т-ва Беларускіх вучыцялёў, якое вядзе значную культурную працу і ўтрымоўвае зара‘ тры прыватных навучальных установы (Рыскую беларускую прыватную вячэрнюю гімназію на Латгальска - Маскоўскім Фарштаце, Рыскую прыватную аснаўную школу ў Торэнзбэргу і Гараўскую прыватную аснаўную школу ў Скайстаўска - Ізабелінскай гміне - Дзьвінскага павету), само ня мае магчымасьці скласьці складак Агульна-Латвійскаму Вучыцельскаму Хаўрусу, мае запазычанасьць і наагул пастаўлена ў дужа цяжкія грашовыя ўмовы. Абгаварыўшы справу, Сход ухваліў: 1) прапанаваць усім сябром у бліжэйшы тэрмін унесьці астачу складак за 1932 год і ўсе складкі за 1933 год, каб ліквідаваць запазычанасьць Т-ва; 2) прапанаваць усім сябром, якія асталіся вінны Т-ву складкі за мінулыя гады, наступова зьліквідаваць сваю запазычанасьць штомесячнымі ўзносамі ў працягу бліжэйшых 6 месяцаў 1933 году; 3) зьбіраньне сяброўскіх складак даручаецца кіраўнікам школ, якія атрымаюць весткі аб кождым сябру і будуць рабіць утрыманьні пры выплаце пэнсыі; 4) сябры Т-ва, якія да 1-га красавіка 1933 году ня зробяць складак за 1932 і 1933 гады, а таксама не прыступяць да ліквідацыі сваей запазычанасьці, калі гэткая за імі ёсьць перад Т-вам, — павінны быць выключаны з ліку сяброў Т-ва; 5) безпрацоўныя, ці быўшыя які-колечы час бяз працы, сябры Т-ва за час безпрацоўя ад сяброўскіх складак звальняюцца; 6) за 1933 год і папярэднія гады сяброўская складка лічыцца па 50 сантымаў у месяц, пры аднаразовай уступкай складцы ў 5 латаў; але на будучыню Сход прызнаў патрэбным увесьці працэнтныя штомесячныя адлічэньні, у памеры 1% з атрымоўваемае пэнсыі; 7) усялякія грамадзкія падпіскі, самаабклады і іншыя адлічэньня таксама ўхвалена рабіць працэнтуальна ў залежнасьці ад атрымоўваемае пэнсыі; з гэтай мэтай старшыні Цэнтральнага Праўленьня, гр. Г. Плыгаўцы, даручана сабраць весткі па школах аб атрымоўваемай кождым сябром Т-ва пэнсыі.

Шмат часу адведзена было разгляду справы аднаго з сяброў Т-ва, прозьвішча якога мы пакуль-што не называем, аб якім было ягонымі калегамі даведзена да ведама сходу, што ён, будучы сам кіраўнікам навучальнае ўстановы, зьбірае складкі з настаўнікаў у Пэдагогічны Фонд на дапамогу незаможным сваім выхаванцам, але сам у працягу некалькіх год усіх належных адлічэньняў са свае пэнсыі ня ўносіў. Справа гэтая перададзена у Цэнтральнае Праўленьне на высьвятленьне і будзе абгаворана на наступным Агульным Сходзе Т-ва.

На заканчэньне Сход заслухаў паведамленьне аб выніках судовае расправы над аўтарам „Беларускае школьнае граматыкі“ беларускім акадэмікам Браніславам Тарашкевічам, якога польскі суд у Вільні, у лістападзе 1932 году, засудзіў за беларускую нацыянальна - адраджэнчую працу на 8 год катаргі. У гэтай справе Сход аднагалосна ўхваліў вынесьці рэзалюцыю пратэста, якую мы зьмяшчаемо ніжэй.

К. Езавітаў.

**Рэзалюцыя у справе судовага прысуду над Б. Тарашкевічам.**

3-ці Надзвычайны Агульны Сход Таварыства Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі, азнаёміўшыся з ходам працэсу над вядомым беларускім культурным дзеячом і аўтарам беларускае граматыкі, гр. Браніславам Тарашкевічам, — горача пратэстуе супроць правадзімага польскімі акупацыйнымі ўладамі ў Заходняй Беларусі ўціску беларускага жыхарства і супроць беспадстаўных і жорсткіх рэпрэсый над нацыянальна-адраджэнчымі павадырамі беларускага народу. Адначасна Надзвычайны Сход патрабуе перагляду судовае справы над гр. Браніславам Тарашкевічам і звальненьня гэтага беларускага павадыра ад катаржнага прысуду.

Рыга, 26 студзеня 1933 году.

Старшыня Сходу **Гр. Плыгаўка.**
Сакратар **М. Калінін.**

## Латыскі гісторык аб беларускай меншасьці у Латвіі.

Перад намі ляжыць аб'ёмістая кніга на латыскай мове — **Latvija desmit gados. Latvijas valsts nodibināšanas un viņas pirmo 10 gadu darbības vēsture.** Jubilejas komisijas izdevums. Rīgā, 1928. g. 18. novembrī" („Латвія ў дзесяць год. Стварэньне Латвійскае дзяржавы і гісторыя першых 10-ці год яе працы. Выданьне Юбілейнае камісіі. Рыга, 18 лістапада 1928 году").

Кніга зьяўляецца калектыўнай працай 20 розных аўтараў і мае 4+384 балонкі ўборыстага друку, які разьмяркаваны паміж 12 разьдзеламі: Гістарычны ўступ, Габінэт Міністраў, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства фінансаў, Міністэрства ўнутрашніх спраў, Міністэрства асьветы, Вайсковае міністэрства, Міністэрства камунікацыі, Праўнае міністэрства, Міністэрства земляробства, Міністэрства народнага дабрабыту, Дзяржаўны кантроль і кадыфікацыйны аддзел Сойму. Для грамадзян уладаючых латыскаю моваю і жадаючых пазнаёміцца з гісторыяй дзяржаўнага жыцьця Латвіі, кніга гэтая зьяўляецца надзвычайна карысным і патрэбным дапаможнікам.

Есьць у гэтай кнізе троху данных і аб беларускай меньшасьці ў Латвіі: на старонцы 197-й зьмешчаны артыкул — „Baltkrievu izglītības pārvalde" („Беларускае Асьветнае Управленьне"), які напісаны дырэктарам Школьнага Дэпартамэнту, гр. К. Азоліньшам. Артыкул караткаваты і троху тэндэнцыйны, бо аўтар у ім старанна абмінае ўсе трагічныя ў беларускім жыцьці моманты, як Беларускі Працэс, арышты, зачыненьне Беларускага Аддзелу і часовае перагварэньне яго ў „Беларускае Дзелаводзтва," таксама не ўспамінае імёны тых беларускіх дзеячоў, якія, хаця і займалі адказныя пасады, але незусім падабаліся Міністэрству асьветы. Аднак, мы настолькі цэнім кождую інфармацыю аб беларускім жыцьці ў латыскай прэсе і кнізе, што ніжэй цалком перадрукоўваем гэты артыкул.

### Беларускае Асьветнае Управленьне.

„Аддзел стварыўся 18 кастрычніка 1921 году з Сяргеям Сахаравым на чале. У першы год працы былі адчынены беларускія аснаўныя школы у Дзьвінскім і Люцынскім паветах, а таксама настаўніцкія курсы. Пазьней летнія настаўніцкія курсы былі ператураны у сталыя двухгадовыя настаўніцкія курсы. У 1922 годзе для беларусаў была адчынена Дзяржаўная гімназія у Дзьвінску і у

Люцыну прыватная беларуская гімназія, якая у 1923 годзе была ператворана у Дзяржаўную беларускую гімназію.

1 красавіка 1923 году была зьліквідавана пасада інспэктара беларускіх пачатковых школ. 22 студзеня 1925 году кіраваньне Беларускім Аддзелам Асьветы часова было даручана П. Заліту, які кіраваў справамі беларускіх школ да 15 ліпеня 1926 году. 16 ліпеня 1926 году выконываючым абавязкі кіраўніка Беларускага Аддзелу Асьветы быў прызначаны Грыгор Плыгаўка, але пастановай ад 20 студзеня 1927 году Кабінэт Міністраў кіраўнікам гэтага Аддзела зацьвердзіў Уладзімера Пігулеўскага. 31 красавіка 1928 году была адноўлена пасада інспэктара беларускіх аснаўных школ, на якую быў прызначаны Якуб Кастылюк.

У 1928 годзе у Латвіі існавалі гэткія беларускія асьветныя установы:

1. Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская гімназія з дырэктарам Сяргеям Сахаравым, з 19 настаўнікамі і 86 вучнямі. Пры гімназіі існаваў інтэрнат з 40 вучнямі, а таксама працавалі належна абсталяваныя сталярная, слесарная, швейная і ткацкая вучнёўскія майстэрні.

2. Рыскія Дзяржаўныя Беларускія двухгадовыя настаўніцкія курсы з кіраўніком Міколай Дзямідавым, 12 настаўнікамі і 20 слухачамі.

3. Пяць 6-ці клясовых аснаўных школ: 1-я Рыская мястовая аснаўная школа, 2-я Рыская мястовая аснаўная школа, Дзьвінская мястовая беларуская аснаўная школа, Люцынская мястовая аснаўная школа, Ляўдэрская беларуская аснаўная школа Люцынскага павету.

4. 14 аснаўных школ I ступені у Дзьвінскім павеце, 13 аснаўных школ I ступені у Люцынскім павеце.

5. 5 камплектаў пры школах Школьнага Дэпартамэнту у Дзьвінскім павеце і 1 камплект пры школе Школьнага Дэпартамэнту у Ілукштанскім павеце.

6. Дадатковая школа для дарослых у Рызе.

7. Дадатковая школа для дарослых у Дзьвінску.

Агульны лік вучыцялёў узіх пералічаных аснаўных школ — 80 і вучняў — 2180. Адна беларуская аснаўная школа прыпадае на 2187 беларускіх жыхароў".

Прачытаўшы артыкул гр. К. Азоліня, беларускі чытач пэўна скажа: „Крыху замала адведзена мейсца і ўвагі беларускай меньшасьці ў Латвіі!"

Але галоўная справа ня ў тым — аб іншых меньшасьцях таксама напісана ня больш! — галоўная справа ў тым, што гэты кароткі артыкул, старанна замазваючы трагэдыю вядомага Беларускага Працэсу і справу ліквідацыі шэрагу беларускіх школ, адначасна з гэтым, у дужа некарысным для нас асьветленьні і форме, падае матар'ялы аб нашых школах. Так у пункце 1-ым аб Дзьвінскай беларускай гімназіі азначана, бяз належных агаворак і паясьненьняў, што ў ёй на 86 вучняў ёсьць, нібыта, аж 19 настаўнікаў, а не адзначана, што штатных настаўнікаў усяго 5-6 чалавек, якія маюць поўныя аклады, рэшта-ж настаўнікаў маюць па сваіх спэцыяльнасьцях усяго па 2—3 гадзіны ў тыдзень; не адзначана і тое, што ў ліку настаўнікаў паказаны: і афіцэр-гімнаст, і вучыцелька танцаў і пластыкі, і вучыцелька кройкі і шыцьця, і майстра-інструктар па мэталю, і два настаўнікі рэлігіі, і дохтар-гігіеністы, і дзелавод ды, здаецца, яшчэ і два старажы гімназіі. Дзякуючы гэтаму ў чытача-латыша можа зьявіцца ўражаньне, што ў гімназіі на яе чатыры клясы працуе задужа ўжо многа настаўнікаў і што ўтрыманьне іх каштуе ліха ведае якія грошы. — Тое-ж самае зрабіў аўтар артыкулу і з Беларускімі Дзяржаўнымі Настаўніцкімі Курсамі, дзе штатнымі служачымі зьяўляюцца толькі кіраўнік і сторАж, а рэшта выкладчыкаў дае ў тыдзень усяго 2—3—4 лекцыі па сваіх спэцыяльнасьцях.

Астаецца толькі пасумаваць, што ў гэткае важнае афіцыйнае выданьне трапілі гэткія няўдалыя інфармацыі.

К. Адраджэнец.

## Аляксандар Фёдаравіч Найдзін.



**А. Ф. Найдзін.** † 1. I. 1933 г.

1-га студзеня гэтага году ў Рызе памёр сябар і адзін з закладчыкаў „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ Аляксандр Фёдаравіч Найдзін. А. Найдзін радзіўся 15 жніўня 1880 году ў Чырвоным Сяле былое Пецярбургскае губэрні. Бацькі яго былі Менскія беларусы. Скончыў ён вучыцельскую сэмінарыю і некаторы час быў хатнім вучыцелем. Пазьней ён скончыў у Пецярбурзе бухгальтэрскія курсы, аднак бухгальтэрам не працаваў, а паступіў на службу ў Паштовы дэпартамэнт у Пецярбурзе раз'яздным урадоўцам. Яму часта прыходзілася рабіць пераезды паміж Пецярбургам і Лібавай праз Рыгу, і 29 гадоў таму назад ён зусім перайшоў працаваць на Рыскую пошту. У часе Сусьветнае вайны ён быў эвакуіраваны ў Расію і ў 1919 годзе некаторы час быў начальнікам паштовага аддзяленьня пры станцыі Балагое. У 1920 годзе А. Найдзін вярнуўся ў Латвію і працаваў далей на службе паштовага ўрадоўца II-га разраду.

Калі ў 1923 годзе Дзяржаўныя беларускія вучыцельскія курсы былі пераведзены з Дзьвінску ў Рыгу, гр. А. Найдзін паступіў на гэтыя курсы, дзе і правучыўся 2 гады.

Па сканчэньні курсаў, гр. А. Найдзін дзейна ўваходзе ў беларускую меньшасьцёвую культурна-асьветную працу ў Рызе, удзельнічаючы ў працы Т-ва „Беларуская Хата“ і „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“. У зьвязку з тым, што А. Найдзін шмат гадоў служыў на пошце і за новую прафэсію вучыцеля яму было цяжка брацца, ён не перайшоў на пэдагогічную працу, а далей працаваў на сваёй сталай пасадзе, не на хвіліну не пакідаючы сувязі з беларускімі арганізацыямі.

Памёр гр. А. Найдзін зусім нечакана, ад разрыва сэрца. Беларускае грамадзтва і працаўнікі Рыскае паштовае цантралі, з вянкамі, кветкамі і жалобнай музыкай, правадзілі 3-га студзеня труну з нябошчыкам на могільнік.

Вечная памяць чэснаму працаўніку!

Былы кіраўнік курсаў **А. Радзько.**

---

**Ці споўнілі Вы свой грамадзкі абавязак? — Ці склалі Вы грамадзкую складку на штомесячнік „Беларуская Школа у Латвіі? — Ці унесьлі Вы падпісныя грошы на штомесячнік за мінулы год і ці падпісаліся Вы на бягучы 1933 год?**

---

## Акт-юбілей Дзьвінскага Аддзелу Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі.

8 студзеня 1933 году ў зале Дзьвінскай беларускай гімназіі Дзьвінскі Аддзел Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі ўрачыста адсьвяткаваў 5 год сваей культурна-асьветнай працы ў Латгаліі. Юбілей распачаўся кароткай прамовай старшыні Дзьвінскага Аддзелу Т-ва гр. С. Мацієўскага, пасьля якой былі выкананы латвійскі дзяржаўны і беларускі нацыянальны гімны; затым выступіў гр. Ул. Ціхаміраў з дакладам аб пачўстаньні і разьвіцьцю беларускай тэатральнай працы ў Латвіі, аб арганізацыі Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі, аб арганізацыі Дзьвінскага Аддзелу і яго працы ў працягу гэтых 5 год. Пасьля дакладу была пастаўлена п'еса „На Антокалі" Фр. Аляхновіча, з удзелам сяброў Аддзелу. Гэтай-жа п'есай Дзьвінскі Аддзел у 1927 годзе на Коляды зрабіў першае выступленьне і распачаў сваю працу. Юбілейнае сьвяткаваньне прайшло дужа ўдала.

На другі дзень была зладжана гарбата для ўдзельнікаў юбілейнай пастаноўкі. Абгаварывалі магчымасьці далейшай працы Аддзелу, неабходнасьць цясьнейшай сувязі і еднасьці сяброў Т-ва, каб падняць актыўнасьць Аддзелу і ўзмацняць заваяваную Дзьвінскім Аддзелам Т-ва пазыцыю ў культурна-асьветным жыцьці беларусаў у Латгаліі.

**Ул. Ціхаміраў.**

## Беларускія вучыцялі-юбіляры у Латвіі.

На 1931-32 і 1932-33 навучальныя гады прыпала шэраг юбілеяў паасобных беларускіх вучыцялёў у Латвіі, якія 25 і 30 год таму назад распачалі сваю вучыцельскую працу. Дзеля таго, што беларускай школы ў той час яшчэ ня было, усе яны пачыналі сваю працу ў расейскай школе, але з 1921-22 навуч. году, калі пачала ў Латвіі арганізавацца свая беларуская школа, нашы юбіляры адзін за адным уваходзяць у беларускі нацыянальны рух і прыймаюць чынны ўдзел у стварэньні беларускіх школ.

Мінулы 1931-32 навучальны год наш часопіс не выходзіў, а пачатак 1932-33 навучальнага году быў заняты справамі змаганьня за Дзьвінскую Беларускую гімназію і агульна - беларускімі літэратурнымі юбілеямі, таму мы ня мелі магчымасьці сваячасна адзначыць юбілеяў пэдагогічнае працы нашых калегаў і робімо гэта толькі зара'. Да ліку юбіляраў, адпрацаваўшых ужо 25 і болей гадоў належаць у нас гэткія вучыцялі: М. І. Дзямідаў, М. І. Іваноў, Я. Ф. Кастылюк, Г. С. Плыгаўка, А. З. Родзька, С. П. Сахараў, С. Л. Сіцько і Е. Я. Хруцкі. Пачынаючы з гэтага нумару мы паступова, у альфабэтным парадку будземо зьмяшчаць іхнія кароткія біяграфіі і фатаграфіі.

Цэнтральнае Праўленьне Т-ва беларускіх вучыцялёў, каб адзначыць юбілей усіх вышэйпералічаных калегаў, ухваліла 25 сакавіка зрабіць урачысты акт, на якім будуць заслуханы даклады аб працы гэтых вучыцялёў і агалошаны прывітальныя лісты, тэлеграмы і прамовы. Замест традыцыйных падарункаў юбілярам будуць паднесены ад імя Т-ва беларускіх вучыцялёў асобныя юбілейныя жэтоны на памятку аб сьвяце.

**Рэдакцыйная Колегія.**

# 25 год вучыцельскае працы М. І. Дзямідава.



**М. І. Дзямідаў.**

Мікола Іванавіч Дзямідаў радзіўся 10 сьнежня 1889 году ў Дзьвінску, дзе бацька яго меў пасаду. Ў 1907 годзе ён скончыў Сьвіслачскую вучыцельскую сэмінарыю, а ў 1909 годзе вытрымаў іспыт на годнасьць вучыцеля расейскае мовы ў гарадзкіх вучылішчах. З 1909 году па 1922 год, уключна, ён працаваў у пачатковых школах Горадзеншчыны. У часе Усясьветнае вайны быў мабілізаваны, скончыў Паўлаўскае вайсковае вучылішча і быў на фронце.

Ў беларускі адраджэнчы рух актыўна ўвашоў у 1919 годзе, калі быў прыцягнуты да беларускіх вайсковых фармаваньняў у Вільні і Горадзеншчыне, дзе выконываў шэраг розных абавязкаў і адзін час быў беларускім камэндантам г. Горадні. З заканчэньнем беларускае вайсковае акцыі, зноў перайшоў да вучыцельскае працы.

У канцы 1922 году М. Дзямідаў прыехаў у Латвію, дзе ўжо шырока распачата была з 1921 году беларуская адраджэнчая праца. Спачатку ён накіраваны быў для працы на вёску, і з 10 студзеня па 1 верасьня 1923 году працаваў у Пустынскай беларускай пачатковай школе. У летку 1923 году ён быў выклікаңы Беларускім Аддзелам, як энэргійны вучыцель, для арганізацыі ў Рызе 1-ай беларускай пачатковай школы. Працу гэту ён правёў з посьпехам, і з 1 верасьня 1923 году быў прызначаны кіраўнікам гэтае школы.

Да гонару Міколы Іванавіча трэба аднесьці тое, што ён не абмяжаваўся адной толькі школьнай працай, але ўзяўся ў Рызе і за грамадзкую культурна-асьветную працу. З яго ініцыятывы паўстала ў Рызе беларускае асьветнае Т-ва „Беларуская Хата", якое адыграла значную ролю як у падойме нацыянальнае сьвядомасьці беларускага жыхарства ў Рызе, так і ў справе арганізацыі 2-й Рыскай беларускай аснаўной школы на Чырвонай Дзьвіне і дадатковае вячэрняе школы для дарослых.

Зара' Мікола Іванавіч працуе вучыцялем у Рыскай вячэрняй беларускай школе для дарослых і адначасна зьяўляецца старшынёю беларускага культурна-асьветнага Т-ва „Беларуская Хата", якое вядзе працу ня толькі ў Рызе, але адчыніла свае аддзелы ў Дзьвінску, у Люцыну і ў Лібаве.

Жадаем юбіляру з поўным посьпехам і далей працаваць на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня!

**С. Сахараў.**

## Сьвяткаваньне 50-ых угодк. Якуба Коласа у Дзьвінску.

22-га сьнежаня 1932 году Дзьвінская беларуская гімназія адсьвяткавала пяцьдзесятгодзьдзе жыцьця беларускага народнага паэты Якуба Коласа. Урачыстасьць была адчынена уступным словам на латыскай і беларускай мове дырэктара гімназіі дэкана Я. Я. Чамана. Прамова дырэктара зрабіла на усіх прысутных добрае уражаньне. Пасьля слова дырэктара хор вучняў гімназіі прапяяў латыскі і беларускі гімны.

Далей вучаніца IV кл. З. Юхна прачытала рэфэрат на тэму: „Якуб Колас і яго творчасьць". Рэфэрат апрацованы быў старанна, а таму вучні гімназіі, пачатковай школы і іх бацькі з шчырай зацікаўленасьцьцю сачылі за разьвіткам таленту нашага паэты і яго літэратурнымі дасягненьнямі.

Затым вучні IV кл. гімназіі, пад кіраўніцтвам вучыцеля роднае мовы Я. П. Якубецкага, згулялі на сцэне першы акт з п'есы „У Палескай глушы", сцэнізаванай А. П. Якубецкім аповесьці „У Палескай глушы" Я. Коласа. Ролю Лабановіча выканаў Я. Кукель, Турсэвіча — І. Оруб, Мар'і — З. Юхна, Ядзьвігі — З. Сільвановіч. Маладыя артысты добра справіліся з сваімі ролямі.

На заканчэньне хор вучняў гімназіі, пад кіраўніцтвам вуч. Катоўскага, прапяяў 7 беларускіх песьняў, а вучні гімназіі вельмі добра прадэклямавалі 11 вершаў Я. Коласа. Дэклямацыя і сьпевы моцна узварушылі сэрцы усіх прысутных. Пры перадачы вуч. IV кл. Я. Кукелем слоў Міхася з разьдзелу „Сьмерць Міхася", з паэмы „Новая Зямля" Я. Коласа, блізка, ува усіх слухачоў на вачох блішчэлі сьлёзы.

**Прытымбытны.**

## Рыскаму Беларуск. Народн. Тэатру трэба падцягнуцца!

Рыскі Беларускі Народны Тэатр зладзіў, нарэшці, 26 лістападу, у будынку Жыдоўскага Народнага Дому на Спаскай вуліцы 3, сваю першую у гэтым сэзоне пастаноўку. Ішла драма у 4-х актах А. Арэшчыхі — „Хам". Рэжысаваў артыста Рыскае Расейскае Драмы, гр. Кацянёў. Ня можна сказаць, каб расейскія рэжысоры „усю душу укладалі" у свае пастаноўкі на беларускай сцэне, а таму аб мастацкіх дасягненьнях гэтае пастаноўкі гутарыць цяжка. Адразу кідалася у вочы і адчувалася, што рэжысор працаваў мала і аднабока, зьвяртаючы увагу толькі на аднаго-двух пэрсанажаў, а рэшта артыстаў была пакінута на свае уласныя сілы. Да гонару гэтых артыстаў трэба аднак сказаць, што яны ужо настолькі маюць практыкі, што справіліся са сваімі ролямі зусім задавальняюча. Шкода толькі, што адсутнасьць рэжысорскага дагляду была прычынаю некаторага паўторываньня артыстаў і яны давалі ужо гуляныя імі раней тыпы.

Хворае мейсца Рыскага Беларускага Народнага Тэатру гэта — рэжысорычужакі. Гэтыя грамадзяне углядаюцца на сваю працу у беларусаў, як на працу выпадковую і часовую, і калі бяруцца за рэжысуру у Беларускім Народным Тэатры, дык, відаць, тут болей ходзе справа аб тым, каб „падзаробіць", а зусім не аб тым, каб дапамагчы беларусам у стварэньні і выхаваньні беларускіх артыстычных кадраў. Наконта „выхаваньня" справа кульгала наагул, але асабліва скандальна пачаў трымаць сябе апошні рэжысор, які пачаў завадзіць у даручанай ягонаму кіраваньню маладой беларускай артыстычнай грамадзе „слаўныя традыцыі" некаторых расейскіх правінцыйных тэатраў: зьвілася „чарачка" на рэпэтыцыях, зьвіўся зварот на „ты" да некаторых артыстак, выпіўка па адыграньні п'есы і іншая „культура". Гэтым ганебным зьявам трэба рашуча пакласьці канец. Т-ва Беларускага Тэатру павінна паклапаціцца аб тым, каб гэткіх рэжысораў у нас больш ня было. Ды і наагул — час ужо абыходзіцца бяз няняк, трэба самім працаваць над сабой і сваім Тэатрам.

Калі параўнаць працу Дзьвінскага Беларускага Народнага Тэатру з працаю Рыскага Беларускага Народнага Тэатру, дык параўнаньне гэтае, нажаль, выйдзе не на карысьць Рыгі, хаця-ж як раз тутака было столькі магчымасьцяў! Гэтулькі грошаў ухлопала Цэнтральнае Праўленьне Т-ва на аплату дужа дарагіх і прэтэнзыйных рэжысораў, а у выніку што? — Праца з перабоямі, цякучы склад трупы і дужа малы лік пастановак. Дзьвінскі Беларускі Народны Тэатр, якому дапамагалі дужа мала, увесь час вёў энэргійную працу і ставіў пастаноўку за пастаноўкай, і у Дзьвінску і на вёсках, перамагаючы усе перашкоды і хранічнае безграшоўе.

У чым тут сэкрат?

Нам здаецца, што калектыву Рыскага Беларускага Народнага Тэатру не хапае самадзейнасьці, што ён задужа ужо прывычаіўся да усямернае падтрымкі Цэнтральнага Праўленьня, якое уваходзе ва усе драбязы кождае паасобнае пастапоўкі. Трэба неяк так рэарганізаваць справу, каб калектыў выявіў большую энэргію са свайго боку і быў зацікаўлены у большай лічбе пастановак і у больш энэргійнай працы.

**Тэатрал.**

## Зьбірайце беларускія народныя творы у Латвіі!

Беларускае Навукова - Краязнаўчае Т-ва за апошнія месяцы атрымала ад сваіх сяброў, карэспандэнтаў і прыхільнікаў значную лічбу запісаў народнае творчасьці. З Люцыншчыны атрыманы запісы: 1) ад гр. Г. Нікіфароўскай — „Беларускія прыпеўкі з Істрэнскай воласьці“, сшытак мае 64 чатырох - радковых прыпеўкі; 2) ад гр. С. Мацієўскага — „Як чорт мужыку брыль грошы прыносіў“, казка запісана у вёсцы Шушкова ад А. Марчонка; 3) ад гр. А. Лейтана — „Як жонка мужыка б'ець“ і „Якая бяда, калі п'ецца вада“, казкі запісаны у вёсцы Малыя Плоскія у Пасіньшчыне; 4) ад гр. Саўкі Сьлядзеўскага — „Вясельныя сьпевы у Пасіньшчыне“, запісаныя у вёсцы Рыўцаны; 5) ад гр. М. Зуеўскага — „Вясельныя сьпевы у Пасіньшчыне“, запісаныя у вёсцы Навумках ад сялянкі Гэлены Краўкліш, 60 гадоў.

З Дзьвіншчыны атрыманы запісы: 1) ад гр. А. Сальцэвіча — „Дар за дар“, казка запісана у вёсцы Будрэвічы; 2) ад гр. М. Талеркі — 11 абрадавых песьняў з Прыдруйшчыны, запісаных у вёсцы Зарэкі ад Авэты Гэвдаль і у вёсцы Азерцы ад Марыі Азерскай; 3) ад гр. М. Талеркі — „Аб добрым краўцу“ і „Лекай“, казкі запісаны у Прыдруйску ад Камінскага і Гэрчыка Воступа; 4) ад гр. Казімера Сяънькевіча — „Вясельныя звычаі і сьпевы у Пустыншчыне“, запісаныя у вёсцы Шпары ад Ганны Юрэвіч; 5) ад К. Сяънькевіча — „Вясельныя сьпевы і звычаі у Прыдруйшчыне“, запісаныя у вёсцы Шпёкава ад Юліі Панько; 6) ад К. Сяънькевіча — „Вясельныя сьпевы і звычаі у Дзісеньшчыне“ запісаныя у Мідрскай воласьці ад Марыі Сяънькевіч.

Усім вышэй пералічаным грамадзянам Урад Таварыства выказвае сваю шчырую падзяку і просіць прадоўжываць далей іхнюю працу. Усё надасланае будзе выкарыстана і надрукавана.

Беларускіх вучыцялёў, курсантаў, гімназістаў, старэйшых вучняў асноўных школ і усё сьвядомае беларускае сялянства просімо рабіць у сваіх ваколіцах зьбёры і запісы ды надсылаць іх у Таварыства па адрасу: Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25. Kanstantinu Jezavitavu.

**Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва.**

## Польская акад. моладзь павінна быць больш шчырай!

У Парыжу выходзіць журнал „Promethée“, орган нацыянальных меньшасьцяў былой Расеі (на францускай мове), які ў № 70 за верасень 1932 г. надрукаваў вось якую рэзалюцыю:

„Дэлегаты Усходніх арганізацый польскага студэнцтва Варшавы, Вільні, Кракава, Львова і Пазнані, сабраўшыся на першы Кангрэс гэтых арганізацый 15 і 16 траўня 1932 году аднагалосна ухвалілі:

Польская унівэрсытэцкая моладзь, згрупаваная ва ўсходніх арганізацыях польскіх студэнтаў, выяўляе дружаскае і брацкае спачуцьцё вызвольнаму руху народаў Азербейджану, Крыму, Грузыі, Горцаў Каўказу, Ідэль-Уралу, Казацкіх краёў, Беларусі, Туркестану і Украіны.

Польскі народ прыгнечаны аж да Вялікай вайны, адваеваў сваю незалежнасьць, дзякуючы генію свайго павадыра Язэпа Пілсудскага і адвазе сваіх ваякаў. Байцы за свабоду служаць прыкладам аддапай любові да Бацькаўшчыны і абавязку бароцца за сваю незалежнасьць.

Таму польская моладзь добра разумее вызвольные рухі іншых народаў, вызнае пачуцьцём еднасьць долі сваей Бацькаўшчыны з народамі яшчэ ўярмлёнымі і прадбачае пляны абароны як супроць расейскага імпэрыялізму, так і супроць другіх агрэсыўных сіл, што пагражаюць Польшчы і уціскаюць іншыя народы.

Агульны Сход ставіць у абавязак прэзыдыуму Кангрэсу паведаміць аб гэтых пастановах усе Промецееўскія цэнтры, камітэты, арганізацыі і рэдакцыі часопісаў вызвольнага напрамку у Польшчы і за граніцай“.

Рэзалюцыя гэтая разаслана і беларускім арганізацыям з гэткаю прыпіскаю:

„Перадаючы Вам гэтую рэзалюцыю, мы жадаем Вам, дарагія сябры посьпеху і перамогі у барацьбе за Вашу незалежнасьць і выказваем нашу гарачую надзею, што Прометеяўскія імкненьні зьдзейсьняцца.

Падпісалі В. Бончкоўскі, старшыня Кангрэсу і сакратар N."(подпіс ня чоткі)

Знаёмячы з гэтай рэзалюцыяй беларускае грамадзтва, ня можамо не зазначыць, што польская акадэмічная моладзь бачыць зярнё ў воку іншых, але бярвяна ў сваім воку ня бачыць. Беларусаў уярмілі палякі. Няма на сьвеце імпэрыялізму, агіднейшага за імпэрыялізм польскі, які, акупаваўшы беларускія землі Заходняе Беларусі, уціскам польскай адміністрацыі, цераз польскія школы і касьцёл, — хоча перарабіць $2^1/_2$ міліёны беларусаў на палякаў. Калі польская моладзь ставіцца супроць расейскага імпэрыялізму і „іншых агрэсыўных сіл", дык няхай таксама паставіцца і супроць польскага імпэрыялізму і шовінізму на беларускіх землях. Тады толькі можна будзе паверыць у шчырасьць яе слоў.

**Занёманец.**

**Я. Райніс.**

## Песьня дзяўчыны.

Ах, салавейка не сьпявай,
Майго ты сэрца не кратай,
Мне заўтра рана трэба ўстаць,
Пад сьпеў твой сумны нельга спаць:
Пад песьні ў сэрцы жаль дрыжыць,
Кіпіць і млее і зьвініць.
Мне заўтра рана трэба ўстаць,
Бяз сонца гнуцца, працаваць,
Там пыл, там лямпаў чад - смурод,
Там гінуць сілы з году ў год,
Там без канца, без перапын
Шаснаццаць цягнецца гадзін.
Да раньня будзеш ты сьпяваць,
Да тэй пары, як мне ўставаць,
Цябе у росы гай ўбярэць,
Мяне - ж ярмо маё прыгнець. —
Ах, салевейка, не сьпявай,
Майго ты сэрца не кратай.

З латыскае мовы пераклаў **П. Массальскі.**

### Да нашых чытачоў і ўсяго беларускага грамадзтва.

Паважаныя Грамадзяне! Рэдакцыйная Колегія штомечніка „Беларуская Школа ў Латвіі" і Беларускае Выдавецтва ў Латвіі зьвяртаюцца да ўсіх прыхільнікаў беларускага адраджэньня з гарачым заклікам і просьбай аб актыўнай дапамозе нашаму штомесячніку! Без грамадзкай падтрымкі і акуратнае надсылкі падпісных грошаў штомесячнік існаваць ня зможа. Усіх, хто яшчэ ня склаў падпіску, просімо зараз-жа пераслаць яе ў Рэдакцыю. Апрача таго абавязкам кождага беларуса ёсьць заахвочываньне сваіх знаёмых і суседзяў да чытаньня і выпісваньня нашага штомесячніка, а таксама зьбіраньне ахвяраў і падпіскі.

**Рэдакцыйная Колегія.**

## Песьня - стогн.

Урывак з паэмы „Латгаліяда“.

Эх, ты ранейка
Прадвясновае,
Што ты суліш мне
Жыцьцё новае?
  Што ты суліш мне
  Скарбы - золата,
  А даеш бяду,
  Морыш голадам?
Эх, ты доля мая,
Ты латгальская,
Ды й нашто мне твая
Ласка панская?
  Надзяліла мяне
  Ты падаткамі,
  Вечна продаж вісіць
  Над манаткамі!

Эх, пайду - пабрыду
Ды за вёсаньку, —
Пратапчу пяршок
На палосаньку.
  Ты, палосанька
  Мая вузкая,
  Эх ты, доля мая,
  Беларуская!
Што ні год — мой шнурок
Ўсё звужаецца, —
Ўсё ніжэй галава
Нахіляецца.
  Твар сьлязой - бядой
  З жалю росіцца,
  Песьня-стогн мая
  Полем носіцца.

**Пятро Сакол.**

## Сьпявайце, струны!

Хоць пануе ноч нямая
яшчэ ў нашым родным краю
і для нас рыхтуюць труны —
вы сьпявайце, ліры струны!
Вы сьпявайце ўсьцяж народу
пра змаганьне, пра свабоду,
й тым, ў вастрозе хто нудзее,
падтрымайце дух, надзею.
У нашай цяжкай, сумнай долі
ня сьціхайце вы ніколі —
песьні вольныя сьпявайце,
да змаганьня заклікайце!

**Язэп Красоўскі.**

Вёска Макараўшчына.

## Родная вёска.

Ад першых дзён жыцьця, з ма-
[ленства,
Я вёску родную ўзлюбіў.
Нядолю, голад і надзеі
Я разам з ёю пераҗыў.

  Мне ўсё тут роднае, усё міла:
  І гэты хаткі на баку,
  І гэты ніўкі, і загоны,
  І цэпаў песьня на таку.

Сады, садочкі каля хатаў
Праз вёску ўюцца, як паяс,
Як любы цень іх пасьля працы
У чэрвянёвай сьпекі час!

  А навакол лясы і нівы,
  Узгоркі, долы і палі,
  Шнуры-палоскі праз нізіны
  Радамі-хвалямі ляглі.

А там далей — магільнік сумны;
Пад ценьню дрэваўрад крыжоў.
Пяюць бярозкі сьпеў жалобны
Для тых, хто тут спакой знайшоў.

  Праз дол зялёны стужкай сіняй
  Рака вясёлая бяжыць,
  Гульлівых хваляк хор шумлівы
  Чароўнай казкаю гучыць.

О, вёска, вёска! Край мой родны!
Цябе люблю ўсім сэрцам я!
Што - б ні было ў жыцьці бяз-
[дольным —
Цябе ня кіну! Ты — мая!

**Саўка Слядзеўскі.**



**Цэнтральнае Праўленьне Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве.** Першы склад Праўленьня, паўнамоцтвы якога зара' закачываюцца. Сядзяць зьлева ўправа: скарбнік Т-ва — Караліна Бэнэдыктаўна Плескачэўская, старшыня Праўленьня — Сымон Міхайлавіч Якавюк, заступнік старшыні — Антон Сьцяпанавіч Матач; стаяць зьлева ўправа: Юры Кандратавіч Радзюк і сакратар Т-ва — Сяргей Пятровіч Дзядзевіч.

## Беларускае жыцьцё у Літве.

**Беларускі Кангрэс у Літве** склікае Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва у Коўне 26-га лютага. У парадку дня: справаздача аб працы беларускіх арганізацый у Літве і закладзіны Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

**Беларускі Народны Унівэрсытэт** у Коўне урачыста адчыніўся 22 студзеня у памешканьні клюбу „Беларуская Хатка“ на вуліцы Крашэўскага 34. На адчыненьні было шмат гасьцей-беларусаў ня толькі з Літвы, але і з Латвіі, а таксама шмат літвіноў (падрабязьней глядзі у справаздачы нашага карэспандэнта).

**Гелвоўскі Аддзел Беларускага Культурна Асьветнага Т-ва у Літве** распачаў сваю працу на Коляды. Гэта ужо трэці аддзел Т-ва, паступова пашыраючы сваю працу на правінцыі.

**Жаночы Камітэт пры Культурна-Асьветным Т-ве** утварыўся у сьнежані месяцы у Коўне. Жаночы аддзел узяў на сябе дабрачынныя функцыі і будзе апекавацца у першую чаргу дзяцьмі беларускага жыхарства у Коўне.

**Статут Нацыянальнае Сувязі Беларусаў Літвы** зацьверджаны 15-га студзеня Літоўскімі урадовымі установамі. Мэтаю „Нацыянальнае Сувязі“ зьяўляецца аб'яднаньне усіх беларускіх арганізацый і паасобных грамадзян-беларусаў у Літве ды закладзіны Беларускага Нацыянальнага Камітэту, які рэпрэзэнтаваў бы усю беларускую меньшасьць.

**Беларускі Дзіцячы Сад у Коўне** будзе адчынены у сярэдзіне наступнага месяца лютага працаю Беларускага Жаночага Камітэту пры Беларускім Культурна-Асьветным Т-ве. На кіраўніцу Дзіцячага Саду запрашаецца гр. М. М. Чэркас.

**Беларускі Студэнцкі Гурток пры Унівэрсытэце Вітаўта Вялікага** у Коўне ужо атрымаў зацьверджаньне ад унівэрсытэцкае улады і прыступіў да працы пад назовам — „Аб'яднаньне студэнтаў-беларусаў Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага“. У праўленьне „Аб'яднаньня“ абраны: старшынёй — студ. Д. Рудаль, намесьнікам старшыні — Г. Чэркас, скарбнікам — А. Ус і сакратаром — А. Зэйгліш. У Рэвізыйную Камісію абраны: студ. Романейка, Варабей і Малаток. **К. Ез.**

## Сьвяткаваньне 80 - лецьця Беларускага Тэатру і 50 - лецьця беларускага народнага артысты і драматурга **Уладыслава Галубка.**

Крыніцы Беларускага Нацыянальнага Тэатру выцякаюць з сівой мінуўшчыны — сам беларускі народ у сваіх вусных творах паклаў моцны падмурак пад будынак беларускае тэатральнае справы: дыялогі у часе гульняў, калядная „каза“, вядомая усім „Батлейка“, а таксама школьныя інтэрмэдыі і камэдыі—вось паступовы шлях Беларускага Тэатру. Але мы за дату закладаінаў новага сучаснага Беларускага Тэатру бярэм ня гэтыя спробы, а першую запраўдную тэатральную пастаноўку, якая адбылася у сучасным тэатры на належна абарудаванай сцэне.

У 1932 годзе споўнілася 80 год з дня першае пастаноўкі у Менску п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча „Сялянка“, музыку для якой напісаў Станіслаў Манюшка і Кржыжаноўскі, а таксама прыпалі 50-я угодкі ад нарадзінаў найпладнейшага з сучасных беларускіх драматургаў — Уладыслава Галубка. З гэтага повяду 30 сьнежня 1932 году у зале Рыскае Беларускае гімназіі на Маскоўскім Фарштаце, адбыўся урачысты акт, на якім з рэфэратам на тэму „Беларускі Тэатр і Уладыслаў Галубок“ выступіў гр. К. Езавітаў.

З дакладу гр. К. Езавітава мы даведаліся некаторыя новыя цікавыя даныя аб „Сялянцы“. Так устаноўлена, што „Сялянка“, надрукаваная у 1846 годзе у Вільні, зьявілася першы раз на сцэне 80 год таму назад, 9 лютага 1852 году у Менску, а потым з вялікім посьпехам ставілася у Бабруйску, Слуцку і Глуску. У трупе В. Марцінкевіча працавала звыш 20 чалавек, а таксама сам аўтар і дзьве ягоныя дачкі. З артыстаў вызначаліся: сам В. Марцынкевіч, Авяр'ян Васільеў і Ляўданскі. Вялікі посьпех беларускіх спэктакляў і распачаўшыйся у зьвязку з гэтым беларускі тэатральна - літэрацкі рух, які пагражаў аформіцца і выліцца у моцны нацыянальна-грамадзкі рух, — дужа занепакоіў расейскую уладу, а таксама і буйнае польскае абшарніцтва. У выніку гэтага, у тым-жа 1852 годзе, беларускія спэктаклі былі забаронены. Аднак, ня гледзячы на гэта, беларускія пастаноўкі адбываліся і далей, але ладзіліся яны ужо не у тэатры, а па прыватных кватэрах, дзе гэта дазваляла велічыня пакояў (у Сьвіды і у Лапіцкай—у Менску, у аўтара—у Люцынцы, ды у іншых мясцох). Афіша аб першай пастаноўцы 9 лютага 1852 году захавалася у сына Авяр'яна Васільева, Якава, які падараваў яе беларускаму пісьменьніку Альбэрту Паўловічу.

З таго - ж дакладу даведаліся мы аб тэй надзвычайна цікавай і плоднай працы, якую праводзе зара' у Радавай Беларусі гр. **Уладыслаў Галубок**. У № 6 (16) нашага штомесячніка ужо адзначалася, што У. Галубок кіруе Дзяржаўным Беларускім Вандроўным Тэатрам, які увесь час пераяжджае з вёскі у вёску з раёна у раён і дае за год ня меньш 200 пастановак у самых глухіх кутках Магілёўшчыны, Вітабшчыны, Полаччыны, Меншчыны і Гомельшчыны. У трупе В. Галубка 30 чалавек. Усе яны—і артысты, і хорысты і танцоры. Тэхнічных працаўнікоў у гэтым тэатры няма. У мінулым годзе, ня гледзячы на вялікія маразы, якія даходзілі да 26° R, Вандроўны Тэатр ні на хвіліну не спыняў свайей працы і за 65 дзён даў 57 спэктакляў, праехаўшы 200 вёрст коньмі і пабываўшы у 9 раёнах. 30.000 сялян першы раз у жыцьці пабывалі за гэты рэйд у беларускім тэатры.

У кождай вёсцы, ці мястэчку, або заводзе, куды прыяжджаў на 16-18 санях Беларускі Тэатр, яго урачыста спатыкала мяйсцовае жыхарства і разьбірала артыстаў па хатах. Пастаноўкі рабіліся на сцэнах народных дамоў, у былых панскіх палацах, а найбольш у насьпех абарудаваных пунях, ці нават вялікіх стадолах.

Цікава тое, што ня гледзячы на цяжкія, клапатлівыя і дужа стамляючыя умовы штодзённых пераездаў, Ул. Галубок не перарывае свaей драматургічнай працы. За апошнія 10 год ён напісаў каля 30 новых беларускіх п'ес, з якіх асабліва вызначаюцца: „Плытагоны“, „Пан Сурынта“ (моцная гістарычная драма), „Ганка“, „Падкідыш“, „Васіль Хмель“ і „Пінская Мадонна“, якія малюць жыцьцё дарэвалюцыйнае Беларусі, ды апрача таго, шэраг п'ес, якія абмалёўваюць сучаснае беларускае жыцьцё, з іх найбольш цікавая — драма у 5 актах „Рвачы“. Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што Беларускі Тэатр у Рызе да гэтага часу ня выявіў належнае энэргіі, каб атрымаць гэтыя п'есы для пастановак іх у Латвіі.

**Слухач.**

# З жыцьця Беларускае Моладзі у Латвіі.

**Спартыўная сэкцыя пры Т-ве Беларускае Моладзі.** Зважаючы на тое, што фізычнае выхаваньне моладзі мае вялікае значаньне у яе агульным разьвіцьці і яе культурнай роўні, Цэнтральнае Праўленьне ухваліла залажыць пры Т-ве Спартыўную Сэкцыю. Кіраваньне Спартыўнай Сэкцыяй даручана тром сябрам Т-ва: Яну Кудраўцаву, Язэпу Каялу і Міхасю Калініву. Намечаны гэткія бліжэйшыя заданьні: 1) арганізацыя гуртка лыжнікаў, 2) закладзіны дзьвюх футбольных каманд у Рызе (на Маскоўскім Фарштаце і на Чырвонай Дзьвіне), стварэньне групы Пім-Понг.

Гр. гр. жадаючых прыняць актыўны удзел у спартыўных гуртках і уступіць у лік сяброў Т-ва Беларускае Моладзі, просімо зьвяртацца на Маскоўскім Фарштаце да гр. Язэпа Каялы, а на Чырвонай Дзьвіне да гр. гр. Яна Кудраўцава, М. Слосмана і У. Гусарэвіча.

**Бібліатэкі - чытальні Т-ва Моладзі на Маскоўскім Фарштаце і на Чырвонай Дзьвіне.** Прыймаючы пад увагу, што у Рызе да гэтага часу няма сталых Цэнтраў, дзе магла-б гуртавацца беларуская працоўная моладзь, Цэнтральнае Праўленьне ухваліла адчыніць бібліатэкі-чытальні: 1) на Маскоўскім Фарштаце пры 1-й Рыскай гарадзкой Беларускай пачатковай школе і 2) гэткую-ж бібліатэку-чытальню пры 2-й гарадзкой беларускай пачатковай школе. Кіраўнікі і Школьныя Рады азначаных школ ужо далі сваю згоду на карыстаньне памешканьнем у вольныя дні і гадзіны. У гэтых самых памешканьнях будуць адбывацца заняткі спартыўных гурткоў.

**Бюро справак і тлумачаньняў пры Цэнтральным Праўленьні Т-ва Моладзі.** Ідучы на спатканьне беларускаму сялянству у Латвіі і наагул беларускаму грамадзтву Латвіі, Цэнтральнае Праўленьне аднаўляе працу ужо раней існаваўшага Бюро справак і тлумачаньняў. Бюро будзе даваць паясьненьні у справах судовых, зямельнага банку і інш. Справамі Бюро кіруюць сябры Цэнтральнага Праўленьня. Карэспандэнцыю па рожных справах у Бюро можна накіроўваць па адрасах: 1) Канцэлярыі Цэнтральнага Праўленьня Т-ва Беларускае Моладзі, Rīgā, Maskavas ielā 173 (skolas telpās), 2) старшыні Цэнтральнага Праўленьня К. Мяжэцкаму, Rīgā, Dzirnavu ielā 102-a, dz. 14 і 3) сэкратару Цэнтральнага Праўленьня Фр. Клагішу, Rīgā, Brivibas ielā 127, dz. 2.

**У Прыдруйскім Аддзеле Т-ва Беларускае Моладзі.** Агульны сход сяброў Аддзелу адбыўся 14 жніўня 1932 году, на якім было абрана новае Праўленьне у складзе: старшыня Праўленьня — Ян Бартуль, намесьнік старшыні — Пятро Бучынскі, сэкратар — Бэрнард Шакель, скарбнік — Алесь Багдановіч і сябра Праўленьня — Лявон Борслаў.

**Вечарына Прыдруйскага Аддзелу Т-ва** адбылася 26 сьнежаня 1932 году і прайшла з дробрым посьпехам.

**Спэктакль-вечарына Пустынскага Аддзелу Т-ва** адбылася 26 сьнежня 1932 г. Сіламі Аддзелу былі пастаўлены п'есы: „Заручаны Паўлінкі“ Янкі Купалы і „Гурток“ Янкі Башкіра. Апрача гэтага была наладжана дэклямацыя і камічныя нумары. Вечарына прайшла з вялікім посьпехам.

**Надзвычайны Агульны сход Пустынскага Аддзелу** адбыўся 6. I. 1933 г., на якім з дакладам аб працы Т-ва Моладзі выступіў сябра Цэнтральнага Праўленьня Язэп Клагіш. Надзвычайны сход Аддзелу ухваліў: 1) арганізаваць музыкальную сэкцыю і хор, 2) выплаціць стыпэндыю вучню Дзьвінскай беларускай гімназіі Ракіцкаму у памеры 30 лат., 3) набыць шафу для пераховываньня бібліатэкі і музыкальных інстумантаў, 4) выпісаць „Беларускую Школу у Латвіі“ і 5) зьбіраць этнаграфічны матар'ял для Навукова-Краязнаўчага Т-ва.

Склад сучаснага Праўленьня Пустынскага Аддзелу: старшыня — В. Дзяргач, сэкратар—В. Рацынь, скарбнік—М. Клагіш, сябры — В. Іжык і Ф. Невяроўскі. Кандыдаты: В. Карабешка і В. Енін і склад Рэвізыйнае Камісіі: А. Іжык, А. Угарынка і Ф. Царфен.

**Цэнтральнае Праўленьне.**

# Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі.

**Беларускія сьпевы па радые** распачала у Рыскім радыёфоне беларуска-літоўская сьпявачка Анэля Тамашоўна Латонас-Дзямідава, якая 20 сьнежня ўпершыню выступіла з некалькімі беларускімі песьнямі. Выкананьне было добрае, і беларускае грамадзтва асталося дужа задаволена. Спадзяёмся, што адміністрацыя Рыскага радыёфона паклапаціцца, каб беларуская песьня часьцей перадавалася па радыё.

**Латыска - беларускі слоунік.** Ужо даўно беларускае грамадзтва ў Латвіі адчувае патрэбу у латыска-беларускім слоўніку, бо дагэтуль, пры чытаньні латыскага тэксту, беларусы, не дасканала ведаючыя латыскую мову, змушаны былі карыстацца латыска-ра-

-сейскімі слоўнікамі. З мэтай задаволіць гэтую патрэбу беларускі культурны працаўнік Пятро Массальскі у пачатку 1930 году прыступіў да екладаньня першага латыска-беларускага слоўніка. Праца гэтая ужо бліізіцца да канца і у працягу гэтага году мае быць закончанай, пасьля чаго слоўнік будзе перададзены на разгляд спэцыяльнае камісіі. Слоўнік гэты будзе меаць каля 25.000 слоў і зможа значна задаволіць беларускае грамадзтва, а таксама і латышоў, якія цікавяцца беларускай культурай. Адначасова з працай над латыска - беларускім слоўнікам Пятро Массальскі сабраў значную колькасьць матар'ялаў і да беларуска-латыскага Слоўніка.

**125 - я угодкі з дня сьмерці В. Дуніна - Марцынкевіча** адзначыла 28 студзеня 1933 году урачыстым актам Рыская вячэрняя беларуская школа для дарослых. Акт адбыўся у клюбе „Вулей" у Старым Горадзе і распачаўся рэфэратам гр. М. Дзямідава на тэму — „Беларускі рух у 125-я угодкі сьмерці Вінцэнта Дуніна-Марцынкевіча". Па дакладзе адбыўся канцэртны аддзел, у якім з беларускімі сьпевамі выступіла гр. Анэля Тамашаўна Латонас-Дзямідава, а з латыскімі сьпевамі выступала гр. Калныньш. Пасьля акту адбылася вечарына з танцамі.

**У І-й Рыскай беларускай асноўной 6-ціклясовай школе** 26-га сьнежня адбылася дзіцячая вечарынаспэктакль і ёлка. У праграме былі: 1) дзіцячая п'еса Зосі Верас — „Сірата", добра адыграная старэйшымі вучнямі школы пад кіраўніцтвам вучыцеля Я. Камаржынскага, 2) дэклямацыя вучняў пад кіраўніцтвам вучыцеля К. Езавітава, 3) балет пад кіраўніцтвам вучыцелькі Л. Тэтар, 4) гімнастычныя намяры і піраміды — пад кіраўніцтвам вучыцеля М. Краўчанкі, 5) сьпевы школьнага хору — пад кіраўніцтвам вучыцеля Я. Каялы. Прысутна было больш 200 вучняў і шмат бацькоў. Вечарына прайшла дужа вясёла і удала.

**У 2 - й Рыскай беларускай асноўной школе** на Чырвонай Дзьвіне 25 сьнежня адбылася школьная вечарына і ёлка для вучняў. Праграма была распачата дзіцячай п'есай А. Палунанава у 1 акце — „Настаўнік Васілька", якую адыгралі вучні школы пад кіраўніцтвам вучыцеля Я. Кудраўцава. Затым адбыліся: дэклямацыя вучняў—пад кіраўніцтвам вучыцелак Г. Нікіфароўскай і Н. Юзэфовіч, балетныя скокі — пад кіраўніцтвам вуч. Бар. Крэйц, сьпевы школьнага хору—пад кіраўніцтвам вуч. Я. Кудраўцава. П'еса, дэклямацыя, балет і хор дужа спадабаліся усім прысутным. Па аканчаньні праграмы дзяцям былі раздаены падарункі, а затым усім прысутным прапанавана была гарбата. Вечарына прайшла вельмі удала.

**У беларускай школе для дарослых** на Чырвонай Дзьвіне 7 студзеня адбылася вечарына-канцэрт з ёлкай. Вучні выступалі з дэклямацыяй і харавымі сьпевамі, апрача таго з сольнымі намярамі выступіла гр. А. Латонас-Дзямідава.

**У Торэнзбэргскай беларускай прыватнай школе** Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі 8 студзеня адбылася вучнёўская вечарыня і ёлка. Ставілася п'еса Ф. Аляхновіча — „У лясным гушчары", прайшоўшая дужа добра. Пасьля п'есы адбыліся дэклямацыя і сьпевы, затым вучням раздаены былі падарункі, а па іх адбылася для усіх гарбата.

**Традыцыйная вечарына Рыскае беларускае гімназіі.** Рыская беларуская гімназія Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі рыхтуецца да ладжаньня 22-га красавіка гэтага году традыцыйнае вечарыны - спэктаклю. Прадугледжваецца багатая праграма: п'еса, хор, балет, гімнастычныя нумары і інш.

### Закладзіны новага Беларускага Пэдагогічнага Аб'яднаньня.

Арганізацыйны сход беларускіх вучыцялёў, якія увайшлі у „Працоўнае Аб'яднаньне для працы над лепшаю пастаноўкаю выкладаньня беларускае мовы у школах", адбыўся 22 студзеня. На сходзе было прысутна 14 вучыцялёў: К. Езавітаў, Яз. Клагіш, П. Міряновіч, С. Сахараў, С. Сіцько, Ф. Клагіш, М. Калінін, Яз. Камаржынскі, К. Мяжэцкі, Н. Юзэфовіч, Г. Нікіфароўская, Ю. Даль, А. Крэйц і Яз. Каяла. Арганізацыйны сход заслухаў даклад К. Езавітава аб мэтах стварэньня „Аб'яднаньня" і аб пляне працы у бягучым навучальным годзе. Згодна прапановы дакладчыка, „Аб'яднаньне" ухваліла распачаць сваю працу з разгляду і параўнаньня існуючых у Латвіі праграм роднае мовы. Агульныя сходы „Аб'яднаньня" будуць адбывацца 1—2 разы у месяц. Бліжэйшы наступны сход прызначаны на 12 лютага, на якім з дакладам на тэму „Праграма і мэты выкладаньня роднае мовы у асноўных школах" выступіць гр. К. Езавітаў.

### Да ведама аддзелаў Т-ва Беларускае Моладзі.

Зважаючы на тое, што Рэдакцыя штомесячніка „Беларуская Школа у Латвіі" дае нам магчымасьць зьмяшчаць на сваіх бачынах матар'ялы аб Т-ве Моладзі

## Зьмест № 1 (18):